## МАЯ ПЕСЬНЯ

Выйду я ўвечары, выйду на вуліцу
вуліца ўвечары сьпіць...
 Песьня мая, шмат каму муліцца
ў сэрцы іх ветрам рыпіць.
І ня раз на мяне цкавалі,
і ня змоўклі яшчэ і цяпер!
 Мае песьні мяне ўзгадавалі,—
а грубыя, як літара — «р».

Выйду на вуліцу,
туліцца гоман;
сьвет ліхтароў рассыпае чад.
Вечар сутуліцца
ў сьценах нардому
слухае ўважна даклад.

На небасхіле ценьню застылі
шапкі фабрычных труб.
Змоўклі машыны—гул бязупынны...
Вабіць песьнямі клюб.

Песьні вясёлыя, сэрца радуюць,
песьні у сэрцы ўзнялі карагод.
— Нас прызнаюць!
засьмяецца радыо,
другой тэлеграмай:
— Будуйце флот!

Сьпеў грамады
гарадзкіх падросткаў
бузу падымае ў спакоі начным!..
Гудуць правады,
рассыпаецца роста:
— Будуйце Авіохім!

Песьня сьціскае ціш алавяную,
песьня—новага дню маяк.
Песьня змаганьнем працоўных убраная,
песьня мяне ўзгадавала!
мая!

Мая песьня —
песьня фабрык!
Мае слова —
звон машын.
Мая песьня —
чырвань фарбаў.
Мае слова —
плынь душы...
Мая песьня—
веснавыя ўзоры,
гоман дня
ў рабочую пару.
Мая песьня —
Новы Горад
Маладняк
і
Беларусь!

* * *

Песьня вясёлая, родная песьня—
жыцьця маладога размах.
Песьня спавіта усьмешкай прадвесьні—
полымям радасьці рдзее ў вачах!
Песьня мая—каму яшчэ муліцца,
яны знача нам не свае!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Выйду я ўвечары, выйду на вуліцу—
вуліца ўвечары песьні пяе!

2/ II—25 г.

## ВУЛІЦА

Сягоньня я акінуў вокам
вуліцы—вірлівае жыцьцё.
Па каменьнях-бруку, цьвёрдым крокам
я іду... ўздымаю пыл высока,
топчучы мяшчанскае сьмяцьцё.
Вуліца... Ой, спавіла мяне ты
сваім гоманам, аголеным, глухім ..
Квіта!
Больш ня буду звонкаю манетай
песьні разьліваць па кафэ-піўным.
Хай дурэюць, хай сваволяць
для валацугі —
тротуар папас.
Я зьдзівіўся, як ніколі,
я зьдзівіўся ў першы раз:

Гул гораду
на бруку
ракашэтам
водзіць суматоху,
як п'яніца-вясна.
А горды
  вечар
ківаецца
электро-сьветам,
ён выпіў троху
вабіць
  выпіць
  нас.
Кіно,
Тэатр,
ізвошчык,
прастытутка
гарадзкога шуму
неўгамонны чад.
Віно
азарт
налошчыць
і тут, як тут-ка
піўная:
„Летні сад“.

У «Летнім садзе»
шклянкамі гручэлі
як-бы спраста
браткі, не наш
народ.
А на эстрадзе
на веліончэлі
мастак
«абнашываў»
фокстрот.
І тут падросткі,
спрытныя дзяўчаткі,
кветкі ім падносяць:
цюльпаны, розы,
ландыш...
і проста-проста
сінь іх вачанятак
калосіць
ненавісьць
да нэпманскае
банды..

Ну чаго-ж тут, вечар?
— добры, цёплы вечар,
лёгкі вецер,
слаўны,
ну чаго-ж?...

Толькі мне тут чалавеча,
мне ня быць у гэтым сьвеце...
Гэты гоман, эх, забаўны
ў грудзі б'е, як фінскі нож.
Па завалку
бяз прытулку
валацугай
сьлібізую.
Сэрца туга
зашнуруе
і спаўе у задуменьні
мае думкі—лятуценьні...
Ўсё-ж люблю,
а хто ня любіць
вуліцу—раўніну?
ідучы зайшоў у клюб,
у клюбе
акцябрыны.
радасьць хвалямі крынічыць,
радасьць тут, о, не ўгасьцёх!
. . . . . . . . . . . .
Толькі тут ў сям'і, фабрычнай
тут запраўднае жыцьцё.

24/VI—25 г.

# ЗА ІГОЛКАЙ...

Песьні—гучныя вясёлкі
пацешаюць, як ніхто.
Дашывай мая іголка
навамоднае манто.
А як толькі зьвечарэе,
як заморыцца рука —
пабягу тагды хутчэй я
свайго любага спаткаць.
Ой прысяду, каля саду,
каля саду, пры сасне;
загадае пяць загадак
пяць загадак мілы мне:

— Каля дрэўца, што віецца?
— А бяз цьвету, што цьвіце?
— Што бяз голасу сьмяецца?
— Што бяз кораня расьце?
— Што бяжыць і сьлед згінае?

загадае, мілы, мне.
Вечар ціха засьпявае,
вечар ласкава міргне...
Песьні—гучныя вясёлкі
пацешаюць, як ніхто.
Дашывай мая іголка
навамоднае манто...
Беласьнежнай ценкай ніткай
вышываць узор пачну:
сваёй радасьці вялікай,
сваёй вольнасьці вясну...

30, XI—25 г.

## ШАВЕЦ

Засядзеўся сягоньня, ажно да агня,
зьнемаглася рука, здрантвела.
А глянеш прыемна—як глянсам зьвіняць
камашы замшава—белыя.

Марудна штось праца сягоньня цякла,
пад сэрцам сьпякота смактала.
На вуліцы лужамі восень лягла,
імглой шэры брук ласкатала.

На варстаце начыньне, бяз іх як бяз рук,
прападзеш за нішто, як бяз працы.
Калі шыла няма, папрабуй зашнуруй,
без нажа—дарабі абсацы.

Нават фумаль, шпілёрт, нават шпандар і той
пры рабоце, як вінцік машынны.
І хром і шаўро прападуць за нішто;
ні шавец—калі ён без начыньня.

Засядзеўся сягоньня, ўсё-ж скончыў заказ,
хоць агні ўжо ў вітрынах дрыжэлі...
Зьнямогся за дзень... Аслабела рука,
утомаю плечы самлелі.
Раніцой загудуць на заводах гудкі—
ізноў майстэрня бушуе.
Гручаць, куючы падашву, малаткі,
або калі, дратвай, шнуруеш.
Даволі сягоньня... Зьняў свой фартух...
на вуліцы з гулам спатканьне...
Яшчэ адзін дзень у тумане патух,
а і вечара зараз не стане...

26/XI—25 г.

## МАШЫНІСТ

Закалыхалася сірэна ў белых сецях
узбудзіла раніцу зімы.
На ляднянках коўзаюцца дзеці,
як калісьці коўзаліся мы.

Дзіўныя, бель-сьнежанныя ўзоры
ўвабралі вокны камяніц...
На фабрыцы машынным звонкім хорам,
кіраваў сівенькі машыніст.

Асьнежаны бязьмежныя даліны,
асьнежаны, фабрычных труб, квартал.
З шаснаццаці гадоў ён ля машыны,
з шаснаццаці за працай каратаў...

Павевам гордай радасьці ўрачыстасьць
рабочы клюб прыветліва спаткаў:
—Гэроя працы машыніста,
насіла моладзь на руках.

## АКЦЯБРЫНЫ

Галаву сваю вечар павесіў,
заскрыпела адлігай зіма.
А ў нас, на заводзе, весела,
нуды ў нас ніколі няма.

Сёньня Максім з Кацярынай
рабочыя фабрыкі „Звон"
справілі баль—акцябрыны—
новае нашых дзён.

Піонэр ад рабочых падросткаў
гальштук чырвоны паднёс
і словам гарачым па просту
пажадаў каб вялікі рос.

Комсамолец з радасьцю кінуў:
—паслухай, таварыш Максім—
нас з табой парадніла машына,
а з сынам імя яго КІМ.

Піонэр—Комуніст—Комсамолец
рабочыя фабрыкі „Звон“—
працуем цяпер мы ў прывольлі,
наша праца—жыцьцё новых дзён.

Радасьць працоўных усьпенена
радасьць шчаслівых хвілін.
Думкі бясьмертнага Леніна
звонкія песьні машын.

12/IV—25 г.

## НА ЗАВОДЗЕ

Сонца пачне гушкацца,
або з хмарай вадзіць карагод.
А рабочы бяз сонца за працай,
яго лашчыць толькі смурод.

Шыпяць рамяні з машынай,
у катле шуміць-пеніцца вар.
У падвале, у печцы дымнай
крычыць малінавы жар.

І сталь і чыгун заскрыгочаць,
заскрыгоча жалеза, бэтон.
Запяе з імі песьню рабочы
і дынамо кіне свой стогн.

Вечны працы звон на заводзе.
Люблю песьню заводу свайго!
А сонца ў «вялікім паходзе»—
у завод і ня ступіць нагой.

Ну што-ж, няхай гуляе,
бо як толькі ўзлуеш[ся]—бяда.
Паўстаньне, бунт уздымаюць,—
ну і сонца з імі ў ладах.

І гуляюць разам забавы...
«Вясёлы» народ, што ні казаць.
На заводзе кашлям крывавым
рве грудзі рабочая раць.

Прывозяць вагонамі камень
выгружаць рабочы ідзе.
Узьвіваецца пыл слупамі
ў грудзёх рабочых гудзе.

А рабочыя песьні сьпяваюць,
ні куточка ня знойдзеш цішы.
Няхай сонца панкоў забаўляе,
наша сонца—песьня машын

Няхай сонца званіцы ліжа,
а нас электрычнасьці сьвет.
Наша мэта ўсё бліжай і бліжай,
яна вабіць, на перад заве!

24/III—25 г.

## З ПОЭМЫ „КОМСАМОЛ

Дні былі мяцяжнае стыхіі,
дні былі, але іх грукат змоўк.
Гартавалі буры агнявыя,
нашы сілы маладыя,
гартавалі комсамол!

* * *

Барацьба змагла прымусіць,
нібы ўсходы сонечнай вясны,
палюбіць —
руіны Беларусі, —
руіны —
спадкі старыны.

* * *

І па цаглінцы... так з году ў год
разбураны край будавалі.
І пакутна—сьлязьлівая песьня яго
стала радасным звонам сталі.
І... зноў загулі на заводах машыны,
новае ёсьць—нястала руінаў.
І ў гэтай працы, дні і ночы
комсамол—чорнарабочы.

* * *

Калісьці знолі:—сутарэньне,
мазоль крывавы на руцэ;
гарадавога, пана цемень
і кастлявы ГВС.
А цяпер жыцьцё ня зломяць!
Хай гудзе вірлівы вецер!
— Комсамол—у фабзаўкоме,
— комсамол—у сельсавеце.

* * *

Песьні... Песьні... Песьні...
Калёна за калёнай —
дзеці працы,
        дружна йдуць!
7-ае верасьня
сьвята мільёнаў,
мільёнаў юнацкіх
        душ.

* * *

Комсамольцы—люд вясёлы!
Смутак—вораг злосны наш!
Праца—радасьць комсамола,
бязупынны левы марш.
І стазвонам, неўгамонна
йдзем з задорым маладым:
— Серп і Молат—наша школа
ў барацьбе за КІМ.

* * *

Мяцеліца сьцеліцца сьнежнай далінай,
зямля серабрысты паркаль...
Трывожна гудуць правады бязупынна;
ветры разносяць жаль.
Мяцеліца сьцеліцца бурай усьпенснай
злосьцю заўзятай мігае ў вачах.
Таварышы, ўтрата!
Нястала Леніна!
Леніна—
Ільліча!

* * *

На Крэмлёўскай званіцы—вежы
гадзіньнік чатыры прабіў...
Над магілай пажоўкла-сьвежай,
свой сьцяг комсамол пахіліў.

* * *

Суму ня трэба! Ня трэба жалю!
А сэрца балюча шчыміць...
Дарагога свайго Ільліча пахавалі —
Ленін мільённы—будзе жыць!

* * *

Беласьнежным праменьнем
ліжа каменьні
мароз, рассыпаючы сьнег белай жменяй.
Сэрца няўзмоўкла... Незьледзянела
вуліцай белай
плача нясьмела...
Іскрамі смутку плача маўкліва
сэрца юнацкае, сэрца вірлівае...
Сьнег засьцілае белью каменьні,
Гэй, комсамольцы
шчыльней
свае зьвеньні!

## ВОСЕНЬ

Навальніцу, віхуру—люблю я,
але восень чыстае гора:
кажуць, поле маўчыць, не хвалюе
толькі стогны вятроў, па-над борам.
Толькі стогны і крыкі у бязьсільлі мы
каб прымусіць рассыпацца восень.
П'яны вечар прыкрыў зямлю крыльлямі
і па стрэхах імглу разносіць.
І віхрыцца халоднымі хвалямі
ускудлачаны вецерам злосным...
Ой ты вецер, чаму цябе хвалім мы?
не таму, што ня любіш ты восень?

22/XI.–24 г.

## БЫВАЕ

І мне бывае сэрца зашчыміць,
начная ціша шэпатам зазвоніць.
Гатоў я грудзі насьцеж рашчыніць,
хай вецер струны сэрца пераломіць.
Зашчыміць і ўзьніме ў сэрцы шум...
Зашчыміць у дні маёй прадвесьні...
Я ціха—ціха, ціхі верш пішу,
і сэрца шум закалышу-вершам, песьняй...

2/VII-25 г.

## З РАДАСЬЦІ

Часамі сэрца так балюча сьціснe
нават валацужных успамінаў шум.
Лятуценьнямі у сонечнай калысцы
успаміны ласкава закалышу.

Страсанешся!.. Дні... Э'эх, дзянёчкі!
А някрыўдую, можа так і лепш—
калі пачуў гульлівыя званочкі,
халоднай стальлю больш не запяеш.

Сварыцца нельга, нельга проста ганіць,
я неадхілюся, як сьвісьне барацьба.
І ціж заўсёды так і гарлапаніў
пад лязгі шклянак прыкры «шарабан».

Бывае з радасьці якую кроплю вып'еш.
на заўтра панікі, гармідару—аж страх.
Сэрца сьцісьнецца, сьлязою моўчкі ўсхліпне
з гора вып'еш зноў, з гора, у пацьмах.

Заўсёды толькі ўцехаю мне вочкі
і прозалаць дзяўчыніных брывей.
На зьмену валацужным тым дзянёчкам
адно прыгожае мне люба і бліжэй...

Я ведаю няма жыцьця бяз працы;
жыцьцё бяз смутку вокам ня міргне.
Чаго-ж?.. працую, я!.. Ды што тут спавядацца
хіба мо заўтра, сёньня сумна мне.

А ўспаміны, яны ўсё-ж сэрцу блізкі
і рад вітаць іх валацужны шум,—
іх лятуценьнямі у сонечнай калысцы
ласкава закалышу.

о
мне
ісьці
вясьне
паклонам
слаць прывет
о мы ўжыцьці
вітаць чырвоны
сонца новы сьвет.
Беларусь вясна цябе
узбагаціла доляй
сонцам сілы ў барацьбе
напоўніла падпольле
Прывет вясьне, прывольлю

о
хто
ня чуў
гул працы
на заводзе
калі вясна
праменьнямі гуляе ля машын
калі як пырскі серабра
стальны імглівіць пыл
той характво жыцьця
няздолеў напаткаць
я чую сьпеў вясны
калі кіпіць завод
калі льле слёзы сталь
агнём халодна — сінім
твой сьпеў вясна — завод
а вольнасьць—сьпеў вясны
на заводзе
вясна мая
песьню
табе
пяю
я

## ЭПОМАНІОН

Горад                льле                грукат
          заўсёды            гоман
топчаш               ты                  па бруку
А ўсёткі             мой                 бушуе
          горад              родны
люблю я              сын                 яму я
Песьні               нас                 чароўнай
          вучыў              бурліва
Горад                жыць                бунтоўна

21/XI—25 г.

---

Старая форма вершу. Чытаецца ён так: Горад *заўсёды* льле *гоман* грукат, топчаш *заўсёды* ты *гоман* па бруку і г.д.
*Рэд.*

## ВЯСЬНЯНКА

Калышацца песьні-вясёлкі,
вясьняных цымбал перабор.
Вясна, як дзяўчына іголкай,
вышывае слуцкі ўзор...

Зігзагамі вецер сваволіць,
нібы электра ток абвіе
і прыемна, бы сьпеў комсамоліш,
што стагодзьдзямі край пяе.

Весела ў грудзях юнацкіх,
песьні вобразы гораду ткуць,—
ці восем гадзін за працай,
ці ў клюбе ў політуртку.

Ці проста, калі комсамолка
мне раскажа пра поле, жніво
Пра вясковыя песьні—вясёлкі
я ўспомню свой шэры завод.

І пачую машынаў усплёскі
ў звонкіх песьнях юнацкай вясны
Родны горад і родная вёска
жыцьцю новаму ткуць дываны...

Ты вясна—маладая ўсьмешка,
ты вясна—малады задор,
вышывай-жа, на нашай сьцежцы,
наш слаўны слуцкі ўзор..

V—25 г.

## ПЕРШАМАЙСКА

Першага Мая — па сьвету ходзіць
сьпеў вызваленьня, сьпеў барацьбы.
Першага мая — ў любым заводзе,
ты не спаткаеш размякшай журбы.

Першы май
        заводаў і фабрык.
Першы май —
        зялёных палёў.
Дзе ні глянеш —
        чырвоныя фарбы
ў сэрцы радасьць
                б'е
                    ў сто
                        званоў!

Дэмонстрацыя сонцам спавіта;
Сонца—лёзунг,
вясна—плякат...
Чарвякоў адчыняе мітынг
і вітае—
Беларусь, парад:

— Беларусь, загоны зялёныя,
ты ня ўся яшчэ з намі.
Не!
Выйдзем-жа разам дружнай калёнай!
Пашлем прывітаньне Вялікай Вясьне!..

— Крок за крокам
дружна з верай
сіла працы ўперад
раз!
Гэта песьня заводаў шэрых
Чарвякову была ў адказ...

* * *

Май шчаслівы, май зялёны
колькі радасьці стазвоннай
ты прынёс сям'е рабочай.
Ты як сьветач цёмнай ноччу
шлях паказываў мільёнам.

І ў гэтай цемені нудлівай,
цябе спаткаў, мой родны край,
цябе, вясёлы і шчаслівы,
Пралетарскі Першы Май

*P. S.*

Вуліцы песьні кідае
аблітыя фарбай агня.
Беларусь, цябе шчыра вітае
з Першым Маем твой Маладняк.

## ЯНКУ КУПАЛУ

ў дзень 20-ёх гадавага юбілею.

Бывае так:
і сонца карагодзіць
і пераліві птушак абвіваюць нас.
І як звычайна дым
звычайнай хваляй бродзіць
і сьпевам маладым,
як бы пяе вясна,
а сумнае наўкола шапаценьне;
зялёны гоман, як паднявольны шэпт.
І толькі ў горадзе, у родным сутарэньні,
рабочы думае ўзарваць—зьмяніці сьвет.
І ўсёт-кі сумнае наўкола шапаценьне
зялёны гоман, як паднявольны шэпт:
і ў гэтых шэптах думкі вызваленьня
ісьці „да сонца, зор“,
як заклікаў поэт!

Але... ці варта ўспамінаць,—
мінулае і сёньня я угледжу.
Эх, вясна, крывавая вясна...
Церпіш, родная мая ты, Белавежа...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

А ты сьпявай, гульлівая жалейка,
гусьляр званчэй пра вольнасьць заіграй!
Сваю ты песьню родную далей кінь!
Твае песьні пяе твой край!

3

## СЬВЯТА ЖАНЧЫН

Па-над стрэхамі ўжо карагодзіць
малады, шустры вечар вясны
Плыве песьня ў бурлівым заводзе,
як на Нёмана хвалях чаўны.

На заводзе, на родным заводзе,
сёньня сьвята, ўрачыстасьць, парад.
Думкі Леніна сонцам усходзяць,—
Марта робіць жанчынам даклад.

Маладая работніца Марта,
яе словы ад сэрца зьвіняць:
— Ну чаго мы раней былі варты?
Вечна сьлёзы, вечна грызьня!
Жыцьцё?... А хто яго бачыў?
Дванаццаць гадзін за станком,
прыдзеш дамоў і... заплачаш:
голад скача, пад вакном.
Работніцы! Хто нас слухаў?

Фабрыкант, ён нам памагаў?
Скажам проста, заедзе па вуху,
ну і душыць, як толькі мага.
Па задворках мы трэскі зьбіралі,—
ці-ж маглі мы купіць шурку дроў?..
Мы сухоты ў грудзёх гадавалі,
гадавалі ў сухотах сыноў.
Гэй! Усе працаўніцы, жанчыны—
Мацнейшымі быць мы павінны!
Хай жыве правадыр наш Ільліч—
ён узьняў нашай вольнасьці зьніч!...

Падросткі сваволяць, жарты..
Рабочы жанчын прывітаў. .
Дзяўчат комсамоліць Марта...
фабзаўком кніжкі прыслаў...

Дзе ні глянь – чырвоныя йстужкі...
Там пяе грамада дзяўчат,—
хлопцы жартам памогуць частушкай...
На заводзе ўрачыстасьць, парад...

Ч

## ПАДНЯВОЛЬНЫМ

Эх, беларуская вёска,
бедная вёска, ня плач.
Няхай п'яная паншчына госкае,
няхай скача крывёй імгла.

Тя ня плач... Іх сіла тлее...
Ты ўзыходзіш на вольны шлях!
Руньню новай ужо зелянее
Беларусі Заходняй зямля.

Ім вядома,—яшчэ больш пазнаюць
край, дзе толькі адны крыжы.
Гэта край—Беларусь маладая!
Ім ня зьнішчыць яе!
Будзе жыць!...

Ня плач ты, радзімае поле,
весялейшы кідай перазвон.
Прынясе вызваленьне падпольле—
яно—жыцьцё новых дзён!...

Серабрыстаю ноччу паслухай
ня плача жыцьцё, а бурліць!
Ой, завые яшчэ завіруха—
вызваленьне роднай зямлі.

* * *

Ў хаце холадна, ў хаце цёмна
ня жыцьцё, а ігрышча бяды.
Мы й ня жывём,—
а страшаць жыцьцём нас,
Эх, непрападзём,
як у хмарах дым!

Нас мільёны!
Зьмена наша:
партызанскі бор, завод.
Нас мільёны
нам ня страшны
ажырэлы панскі род.
Пераможам
сілай працы!
Ня стрыножыць
дух юнацкі...

Беларусь ня церпіць пана,
Беларусь бунтарскі род.
Эх, паўстане край забраны—
дзеці працы—наш народ.

Серабрыстаю ноччу паслухай,
ня плача жыцьцё, а бурліць!
Эх, завые яшчэ завіруха,
вызваленьне роднай зямлі...

1/I—25 г.

## ВЕЧАР

Слухмяным хлопчыкам прышоў
у горад
вечар...
Веча
зорак
тчэ павуціну сноў.
А ў глухой прасторнай сіні—ўзвышшы
вечар вольнасьць нашу
чырвонай ніткай вышыў.
Подых ветру вабіць радасьцю рабочай,
чырвань вуліц цешыць сьпевам барацьбы.
Сэрца ціха-ціха, шэпча мне, прарочыць:
— хутка мы павінны у Заходняй быць!..

6

Беларусь такой невялікай
здаецца, як глянеш на карту...
І ня лоўка і проста дзіка
і падумаць могуць што жарты,—
Беларусь яшчэ мала хто знае,
нават тут,—у самой Беларусі.

# У ДАРОЗЕ

Іскрамі пырскае ў сіні цягнік,
горы, як чорныя цені.
Ў небе міргаюць зоркі—агні,
міргаюць на дол лятуценьні!

Глянеш ня верыш, вялікі абшар:
палі, сенажаці, балоты.
Захад ахопіць сонечны жар
абшар заліе пазалотай.

А цікавіўся хто, што тут за зямля,
чаму яе колер крывавы?
Вучоныя кажуць „цяжарны“ шлях.
гэта праца, ня шклянка кавы.

Ня ўжо ў сваім сэрцы ня носяць любоў
да сваёй, да працоўнай краіны.
Каласістая радасць!
Бязьмежнасьць палёў!
— Мінулага гэта хвіліны...

Цягнік прамінае узоры прысад—
не пасёлкі працы фабрычнай!
Як не кажыце, а ўсёжткі краса
калі й вецер лазой заскавыча.

Іскрамі пырскае ў сіні цягнік
горы, як чорныя цені.
Ў небе міргаюць зоркі агні,
міргаюць на дол лятуценьні...

## ВІЦЕБСК

Горад як горад:
вуліцы, гоман...
Хвалямі плешча спакойна Дзьвіна.
Электро-сьвету,
як ноччу зорак
і шыльды:
рэклямы «Вина»...
Па рэйках трамвай прабяжыць,
загрукоча...
Вабіць кіно!
Заклікае тэатр!
Піўная гармонікам глуха „фокстроча“;
Гандаль на рынку
муштруе
азарт.
Горад як горад
і нават сёньня*)
пазнаеш ты ў ім Беларусь!

*) У перыяд працы сэсіі ЦВК БССР.

На простай, на роднай гірляндамі звоніць
і як бы у рытм,
у пару...
А далей, глыбей!
А яшчэ, у жыцьці!—
і на розум ня прыдзе другому.
Город як горад:
ня хочаш ісьці
трамвай падвязе да дому.
О, мой Віцебск, мой родны горад,
яшчэ шмат табе трэба, каб родным стаць.
Гаварыць пра Віцебск—набрацца гора!
Дык лепш далікатна маўчаць...

Віцебск
1925 г.

## МЯСТЭЧКА

Пятніца...
Запалілі сьвечкі
ў кожнай хаце
цёмнага мястэчка.
На стале ля сьвечак
Сьпечаная хала.
Ў талесах мястэчка
сівы талмуд чытала.
Сонейка пагасла...
Запалілі сьвечкі...
Пятніца...
Вечар...
Моліцца мястэчка.

II

Вечар жніўны ціха павевае,
рассыпае срэбра кроклямі расы...
Ходзіць задуменны местачковец Хаім;
месяц завіваўся ў сівыя валасы.

Моліцца на месяц, моліцца на неба
просіць дапамогі:—Борух, адэной!..
Моліцца пакорны местачковец рэбэ
просіць неба яснае выслухаць адно.

Глянуў на старога: абадраны, голы;
талесамі роніць буйнаю сьлязу.
А калісьці Хаім езьдзіў балаголам,
а цяпер ад нечага—гудуе ён казу

і кожны вечар ходзіць з хаты ў хату
І ў кожнай хаце хэйдар, ну і „гут“...
І як шчыры рэбэ горача заўзята
дзеткам убівае ў галавы талмуд.

Ï гандлюе хочаш, бакалеем,
з калізэлкі, хочаш, какаіну дасьць.
Моліцца на неба.. сьлязою грудзі рве ён..
Спавіла яго шчасьлівая бяда.

Ï ламае рукі і ламае пальцы
і губляе сьлёзы на зялёны дол.
Родныя сыночкі адкідаюць талесы
і заместа школы йдуць у комсамол.

Їх лаялі... Пракляцьці насылалі,
праганялі з дому, голых праганялі.
Їм хоць бы што... ніба сьцяна нямая
замест талмуду „Арбэйтер" чытаюць

Багамольны крамнік, набажны гандляр—
Злосьць яго спавіла, злосьць кідала ў жар.

III

Ноч мінула ў цемені дубровы,
пагасіўшы ветрам сонныя агні.
На дыване усходу барбоваю падковай
віталі раніцу—прозалаць зарніц.

Над мястэчкам глуха, пахіліўшы вецьці
шапацелі хвойкі, калыхалі ціш...
Талесы, як хмары, доўгія сталецьці
мутнымі вачыма чадзілі ў жыцьці.

І пад шум гішэфтаў і цяпер мястэчка
каратала буднем сонечныя дні...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ой, зусім нядаўна запаліла сьвечкі
новая раніца—прозалаць зарніц.

Мяст. Хоцімск
жнів. 1925.

## КРЫМ

Шумлівае, вабнае Чорнае мора
хвалі ўскідала на ўзвышша скал.
Шторм гудзеў горда у пролазах горных.
вірлівіў за валам вал.

Рабінавай ноччу гудзелі ветры,
на мора зьвісалі хмары гурбой.
Аплаканы, зьліты грудзі Ай—Петры,—
татарскай гарачай сьлязой.

Век паднявольлем гнуўся татарын,
у горах бязлюдна жыцьцё каратаў.
Шторм. Навальніца! Шторм. Пажары!
Вольным татарын стаў.

Нязнацца ёй болей з той доляю горкай
Шчасьцем абвіў іх Паўстаўшы Усход.
На небасхіле—электро-зорка—
чырвоны плыў параход.

Зяленым агнём кіпарысы маўкліва
радасна вабілі ў цемень скал.
Чорнае мора, вечна шумлівае
вольнасьць тваю я шчасьліва спаткаў...

У сэрцы, грудзёх хараством каласілі,
білі паклоны... насілі дары...
Пазалотай поэзіі ласкава зьвілі
сонечны, казачны Крым!

Місхор-Марат
1925 г.

## ВОЛГА

Далёка ад родных загонаў,
ты шырокая Волга—сястра.
Б'юць аб бераг халодным звонам,
твае хвалі ў сецях чароўных:
туман-кудзель серабра.

На палёх, на раўнінах рускіх
родным гонарам Волга—ты!
Я прыехаў з зямлі беларускай
дзе зрэбна—зялёнаю хусткай
бязьмежна ляжаць балаты.

Дзе лясы ноччу ціхай,—цёмнай,
так прыгожа, так люба гудуць.
Дзе гордыя—Сож!.. Прыпяць, Нёман,
Дзе Вільня—Менск—Віцебск—Гомель,
дзе нядаўна пазабылі бяду.

На тваіх, на грудзёх, бурлівых
плылі горда чаўны казакоў,
і песьняй, як белаю грывай,
трасьлі рускі абшар вірлівы
да цябе абуджалі любоў.

Як прыемна пачуць стыхію—
сьпеў рабочага, сьпеў мужыка..
Як жыцьцё, як дні агнявыя,
цябе любіць твая Расія—
цябе руская Волга—рака.

Ты з сілай жыцьця маладога
На хвалях трасеш параход
і радасна пенішся доўга...
Дык люблю цябе руская Волга,
бо любіць цябе твой народ...

1925 г.
г. Саратаў.

# ЗЬМЕСТ

Стар.

## ШЭЛЕСТ РАДАСЬЦІ

## ПАДАРОЖЖА

## ЗБОРНІКІ АЛЕКСАНДРОВІЧА.

**„Па беларускім бруку“**—вершы . . . 1925 г.

**„Паўстанцы“**—поэма . . . . . 1925 г.

**„Сутарэньне“**—апавяданьні . . . . 1925 г.

### Колектыўна:
### Александровіч, Вольны, Дудар

**„Ваўчаняты“**—роман беларускіх лясоў . . 1925 г

**А. Вольны і А. Александровіч**—„Комсамольская нота“—
вершы . . . . . . 1924 г.